# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА

№12 (16)
СНЕЖАНЬ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ



# ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ!



## ВІНШАВАННЕ АД БАРЫСА КІТА

**акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, ураджэнец Наваградчыны**

*Паважаныя прыхільнікі беларускай справы!*

*Будзем працаваць у імя адраджэння Беларусі ў 2002 годзе і новым стагоддзі, якое надыйшло.*

*Адпачываць будзем на тым свеце. Наперадзе нас чакае вялікая работа!*

З найлепшымі пажаданнямі
Аддаю Вам заўсёды
Кіт

**Франкфурт-на-Майне, Германія**

## ВІНШАВАННЕ АД УЛАДЗІМІРА КОЗЫРАВА

**настаўнік гісторыі Луцкаўлянскай СШ, кіраўнік музея калгаса імя П.І.Дзеншчыкова Гродзенскага раёна, актыўны аўтар "КГ"**

**Даследчыкам гісторыі Беларусі**

*Ужо мы сталі людзьмі звацца,*
*Сваім мінулым ганарыцца.*
*У новым годзе краязнаўцы*
*Хай зробяць новыя адкрыцці!*

## БЕЛАРУСКАЯ ЯЛІНКА З ЧЫКАГА

"Вясёлых Калядаў і Шчаслівага Новага Году, моцнага здароўя і вытрывалага духа жадаюць беларусы з Чыкага, ЗША".

Такі подпіс утрымлівае віншавальная паштоўка, якую вы бачыце. Ялінка тут святочная і зусім беларуская. З 1978 года музей навукі і індустрыі ў Чыкага выдзяляе месца, каб прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, якія жывуць у гэтых мясцінах, змаглі паказаць усім свае ўпрыгожаныя елкі. Амерыканскія беларусы таксама маюць такую магчымасць.

# "ТРЭБА З СТАЛІ КАВАЦЬ ГІБКІ ВЕРШ..."

**7-8 снежня ў Гродне адбылася рэспубліканская навуковая канферэнцыя на тэму "Максім Багдановіч: аспекты жыцця і творчасці".**

Арганізатарамі выступілі ўпраўленне культуры аблвыканкама, музей Максіма Багдановіча, кафедраў беларускай літаратуры і беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Удзел у рабоце канферэнцыі прынялі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, начальнік упраўлення культуры абласнога выканаўчага камітэта Людміла Кадзевіч, пісьменнікі Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Алена Руцкая, Юрась Пацюпа, Анатоль Брусевіч, навукоўцы з Мінска, Гродна, Магілёва, Брэста і іншых гарадоў Беларусі.

Удзельнікі канферэнцыі працавалі ў двух секцыях. Было заслухана каля 30 паведамленняў. Даследаванні навукоўцаў будуць апублікаваны асобным зборнікам.

**Алена Віктаровіч**

■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ

# МІНУЛАЕ ВЕДАЦЬ – ПРОДКАЎ ПАВАЖАЦЬ

***У 1988 г. у Гродне было створана польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча. У 1990 г. яно пераўтварылася ў Саюз палякаў на Беларусі. Задача грамадскага аб'яднання — адраджэнне польскай культуры і мовы. Намеснік старшыні СПБ Юзэф Пажэцкі распачаў размову з удакладнення:***

— Паводле дадзеных перапісу насельніцтва ў 1999 годзе, на Гродзеншчыне жыве 294 тысячы палякаў, ці 24,8 працэнта ад агульнай колькасці ўсяго жыхарства. Гісторыя краю багатая на падзеі і на выбітных асобаў. Вывучэннем гісторыі, краязнаўствам займаюцца нашы таварыствы – навуковае, польскай моладзі, польскіх ветэранаў, воінаў Арміі Краёвай, польскіх ахвяраў палітычных рэпрэсій. Матэрыял агучваецца на штогадовых канферэнцыях польскай літаратуры, гісторыі і культуры. Рэгулярна праводзяцца адпаведныя конкурсы. Ахоўваем мясціны памяці…

**— Маеце на ўвазе старажытныя помнікі культуры і гісторыі, звязаныя з імёнамі вядомых дзеячаў мінулага?**

— Не толькі старажытныя. Напрыклад, да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча ўсёй грамадой парупіліся пра аднаўленне яго музея ў Навагрудку. У Гродне тады быў пастаўлены помнік гэтаму вялікаму паэту перад сядзібай Саюза палякаў. Вечарыны памяці нашага земляка адбыліся ў многіх польскіх гарадах, у тым ліку Варшаве, Торуні і Познані, Беластоку, Кракаве. Сёлета адзначаліся 160-я ўгодкі пісьменніцы Элізы Ажэшкі. У яе доме-музеі адкрыты мемарыяльны пакой. У цэлым вывучаецца спадчына шматлікіх прадстаўнікоў навукі, культуры і гісторыі, якія жылі і тварылі на Гродзеншчыне ў розныя часы.

Не забываем працягваць пошук звестак аб падзеях 1863, 1920, 1939 гадоў. Гэтыя даты помныя для палякаў. Савецка-польская вайна 1920 года пакінула на Гродзеншчыне каля 100 месцаў, дзе пахаваны польскія салдаты. Мы даглядаем гэтыя магілы, прыводзім іх у парадак – у Ваўкавыску, Слоніме, Лідзе, вёсцы Ваверка і г.д. Нядаўна выявілі 14 магіл у вёсцы Варняны Астравецкага раёна, усталявалі памятную табліцу. У Слоніме пахаванні былі ў вельмі запушчаным стане. Трэці год даводзім да ладу.

У дзень памінання памерлых абавязкова наведваем магілы. Сёлета пабылі на месцах 57 пахаванняў. Запальваем свечкі, успамінаем асобаў, якія несправядліва пацярпелі ад бальшавізму.



Галоўная сядзіба Саюза палякаў на Беларусі ў Гродне

**— Цяпер неадназначна ацэньваюцца дзеянні вайскоўцаў Арміі Краёвай. Польскі бок трактуе іх, як нацыянальных герояў. Беларускі – мае свой погляд…**

— Тут нельга даць адназначны адказ. Таму гісторыкі і краязнаўцы наладжваюць агульныя сустрэчы і абмен думкамі. У бягучым годзе ў Беластоку была праведзена супольная канферэнцыя “Дарогамі да ўзаемнасці” з удзелам беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Палякі Беларусі абмеркавалі тэму “Свядомасць польскай дыяспары на Беларусі”. Шырокія дыскусіі, прысвечаныя Арміі Краёвай, праводзіліся таксама ў Гродне, Мінску, Беластоку. Працяг размовы чакаецца ў будучым. Можна па-рознаму адносіцца, напрыклад, да маёра Арміі Краёвай Піўніка (“Пануры”), які загінуў ад куль НКУС на Лідчыне. Адныя ўспрымаюць яго, як барацьбіта з фашызмам і камунізмам за незалежную Польшчу, іншыя – як ворага Савецкай улады.

**— Лёс пазбавіў многіх людзей родных котлішчаў. Але мясціны маленства заўсёды прыцягваюць да сябе. Патрабуюць асэнсавання пражытыя гады. Тады з'яўляюцца краязнаўчыя публікацыі, нават кнігі…**

— Ведаеце, у свой час я вучыўся ва універсітэце імя Мікалая Каперніка, што ў польскім горадзе Торунь. Кіраўнік маёй дыпломнай работы сказаў: “Мы ўсё захапляемся чужой гісторыяй. На сваю нават увагі не з'вяртаем. Хіба ў вас на Беларусі няма роднага куточка, які вымагае вывучэння?”. Так была створана мая работа аб роднай вёсцы Пачобуты. На ўласным вопыце пераканаўся, што сапраўдныя адкрыцці чакаюць краязнаўцаў пры азнаямленні з архітэктурай, помнікамі, падворкамі, касцёламі і капліцкамі, нават старымі дакументамі сваёй сям'і.

Нядаўна мой добры знаёмы краязнаўца з Польшчы Вітольд Урсын-Нямцэвіч, бацьку якога забілі чырвонаармейцы ў 1939 годзе, даслаў свае успаміны. Гэта сямейны жыццяпіс. Такія зборнікі, няхай нават накладам у некалькі асобнікаў, фіксуюць подых мінулага. Тут сабраны дакументальныя звесткі пра час і пра сябе, родных і блізкіх гэтага шаноўнага доктара медыцыны. Што кожнаму краязнаўцу перашкаджае ствараць сямейныя хронікі? У Варшаве выдаецца адметны штоквартальнік, пішацца пра жыццё былых уладальнікаў маёнткаў – асаднікаў, іх працу, звычкі, норавы, традыцыі, культуру земляробства, трагічны лёс…

**— Здабыткі гісторыкаў і краязнаўцаў набываюць грамадскае гучанне, калі знаходзяць месца ў СМІ. Ці ёсць тут чым ганарыцца?**

— Матэрыялы такога кшталту рэгулярна друкуюць газета СПБ “Глос з-над Немна”, часопіс “Магазын польскі”, выданне “Земя Лідска”, адлюстроўваюцца ў польскамоўнай тэлеперадачы “Над Немнэм” абласнога тэлерадыёаб'яднання, радыёперадачы. Калектывы мастацкай самадзейнасці таксама ўключаюць абразкі мінулага ў праграмах сваіх канцэртаў.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

■ ГРОДЗЕНСКАМУ МУЗЕЮ ПРЫРОДЫ — 75

# ЁН ПАДАРЫЎ РОДНАМУ ГОРАДУ КАЛЕКЦЫЮ

*Іншыя экспанаты гэтай залы Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея выклікаюць шчыры недавер у наведвальнікаў: "Няўжо гэта сапраўды матылькі! Хіба можа захавацца на працягу амаль стагоддзя фантастычная натуральная афарбоўка?". Чуюцца нават выказванні, што людзей папросту ўводзяць у зман нейкімі таямнічымі хітрыкамі.*

Між тым, пры ўваходзе ў залу змешчаны партрэт Станіслава Жыўны (12.09.1893 – 18.12.1940), які сваімі рукамі стварыў гэты цуд. 21 лістапада 1926 года ён узначаліў гарадскі музей прыроды. Жыццёвы шлях навукоўца вывучалі краязнаўцы Аляксандр Плешавеня і Аляксандр Госцеў, вучоны-гісторык Вячаслаў Швед.

Станіслаў Жыўна нарадзіўся ў Гродне. Бацькі жылі небагата і малады чалавек у 1908 годзе паехаў шукаць шчасця ў ЗША. Ва універсітэце штата Канектыкут уладкаваўся на працу прэпаратарам. Яму пашанцавала на кіраўніка – прафесара Воада. Вывучэнне жывёльнага і расліннага свету дало веды і вопыт у кансервацыі, прэпарыраванні і апісанні экспанатаў. Метадычна збіраў уласную калекцыю па энтамалогіі (насякомыя), мінералогіі і кахналогіі (ракавіны).

Свой набытак прывёз у Гродна ў 1924 годзе. Мясцовыя аматары прыроды былі ў захапленні. Спецыяльная камісія гарадской рады прызнала калекцыю надзвычай каштоўнай, прапанавала стварыць музей. С.Жыўна афіцыйна падарыў збор гораду, а сам атрымаў пажыццёвае прызначэнне кіраўніка ўстановы.

Уражвае пералік перададзеных каштоўнасцей: млекакормячых – 17 відаў, птушак – 340, матылькоў – 774, марскіх істот – 749, жукоў і аваднёў – 402, птушыных яек – 290, гнёздаў – 17, мінералаў – 355. Усяго было зафіксавана 2.933 экспанаты.

Работай музея кіраваў камітэт з 12 асобаў – прадстаўнікі магістрату, гарадской рады, сярэдніх і пачатковых школ, дырэкцыі дзяржаўных лясоў, павятовай аховы прыроды, таварыства аматараў прыроды, грамадскасці. На чале стаяў павятовы ўрач Ян Якімовіч.

У 1929 годзе колькасць экспанатаў дасягнула амаль 4.000. Шчодра перадавалі ўласныя набыткі грамадзяне. Марыя Венжык-Відоўская ахвяравала музею 200 сабраных мужам мінералаў Урала і Сібіры, 110 экспанатаў горных парод. Арнітолаг Адам Дзержаноўскі — 106 экспанатаў водных птушак. Ян Каханоўскі перадаў 44 экспанаты, з якіх 38 – птушкі мясцовай фауны. Калекцыянер Залескі падарыў 22 рэдкія мінералы. Прозвішчы гэтых асобаў былі занатаваны ў кнізе ганаровых ахвярадаўцаў.

У 1932 годзе музей наведала 6.934 чалавекі. У 1937 годзе мелася 7.288 экспанатаў. У час Вялікай Айчыннай вайны захавальнік Аўгусцін Зняржэвіч збярог каштоўнасці ад разрабавання.

Цяпер у раздзеле прыроды ГГАМ экспануецца невялікая частка экспанатаў. Яны змешчаны ў адзелах "Насельнікі мора і акіяна", "Арктыка і субарктыка", "Антарктыка", "Аўстралія", "Эфіопская вобласць", "Інда-малайская вобласць" і інш. Шмат цікавостак знаходзіцца ў запасніках: адсутнасць выставачных плошчаў…

Што да Станіслава Жыўны, то ён памёр ад хваробы ў 1940 годзе. Месца пахавання на каталіцкіх могілках у Гродне страчана. Яго родныя жывуць у Польшчы. Імя самаахвярнага навукоўца не набыло шырокай вядомасці.

**Уладзімір Кавалёў**

■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# "СПАДЗЯЕМСЯ НА ДАЛЕЙШАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА"

***"КГ"** працягвае публікацыі матэрыялаў пад сталай рубрыкай "Жывём на зямлі адной". На гэты раз размова вялася пра беларускіх татараў, у прыватнасці, жыхароў Гродзеншчыны. Прыемнай нечаканасцю для рэдакцыі было пісьмо з Мінска. Вось яно:*

**Вельмі шаноўная рэдакцыя!**

**Вельмі ўдзячны Вам за засылку цікавай і змястоўнай газеты. Вельмі парадавала нас публікацыя С.Яршчука "Нашы браты – беларускія татары" (№ 9 за 2001 г.). Дзякуй Вам вялікі. Спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва ў справах нацыянальна-культурнага адраджэння нашых народаў.**

**З павагай Ібрагім Канапацкі**
**Менск, 28.11.2001 г.**

**Ад рэдакцыі.** Да свайго пісьма віцэ-прэзідэнт Беларускага грамадскага аб'яднання татараў "Зікр уль-Кітаб" спадар Ібрагім Канапацкі ласкава прыклаў фотаздымак, а таксама чарговы нумар бюлетэня "Жизнь" — выдання мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь.



Да вайны ў Беларусі было 19 мячэцей. Цяпер іх толькі пяць. У Мінску святыня была разбурана ў 1962 г. Мяркуецца, што яна будзе адноўлена. Знайшліся спонсары з Саудаўскай Аравіі.

**На здымку**: так выглядае макет мячэці.

■ НЕ ЗГАСАЙЦЕ, СВЕЧКІ ПАМЯЦІ

# АНТОН ЖЭБРАК — АКАДЭМІК З ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ



***27 снежня (9-га студзеня па н.ст.) спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння нашага славутага земляка, выдатнага беларускага навукоўцы, грамадскага дзеяча, арганізатара навукі АНТОНА РАМАНАВІЧА ЖЭБРАКА***

Нарадзіўся будучы акадэмік у в.Збляны Зэльвенскага раёна. Выхадзец з сялянскага роду, ён меў вялікую прагу да вучобы, марыў аб паляпшэнні цяжкага лёсу і працы вяскоўцаў. Свае памкненні захаваў назаўсёды, пераадольваючы неймаверныя выпрабаванні ў часы Першай сусветнай, грамадзянскай і савецка-польскай войнаў. Як удзельнік грамадзянскай вайны, хутка вызначыў сваю палітычную пазіцыю – стаў членам ВКП(б) у 1918 г.

Нішто не перашкодзіла гэтаму няўрымсліваму чалавеку атрымаць сярэднюю адукацыю і стаць студэнтам знакамітай Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева, якую паспяхова скончыў у 1925 г. Малады спецыяліст адразу выявіў схільнасць і здольнасць да навуковай працы і, паколькі сацыяльнае паходжанне дазваляла, працягваў вучобу ў Інстытуце чырвонай прафесуры (скончыў у 1929 г.).

**Упершыню ў свеце ён атрымаў пладавітыя гібрыды ад скрыжавання аддаленых відаў пшаніцы, спалучыў геномы пшаніцы і жыта, тым самым атрымаў нештучны від – ТРЫЦІКАЛЕ. Гэта стала асновай сучаснай геномнай і хромасомнай інжынерыі**

Захоплены малавядомай у той час генетыкай, што абяцала ўздым сацыялістычнага земляробства, ён стаў супрацоўнікам, а пазней кіраўніком кафедры генетыкі і селекцыі Акадэміі сацыялістычнага земляробства ў Маскве (1931-1936 г.). Малады вучоны хутка стаў прафесарам. У 1934-1948 г. узначальваў кафедру генетыкі alma mater (МСГА).

Гэтая навука, якой былі захоплены многія навуковыя калектывы свету, асабліва вынікова развівалася пад крылом УАСГНІЛ (ВАСХНИЛ). Антон Раманавіч адразу стаў лідэрам у галіне эксперыментальных генетычных доследаў, у прыватнасці, па аддаленай гібрыдызацыі пшаніцы і эксперыментальнай поліпладыі. Агульную ўвагу спецыялістаў выклікала манаграфія А.Р.Жэбрака "Категории генетики в свете диалектического материализма".

Абарона доктарскай дысертацыі ў 1936 г. прынесла новыя навуковыя перспектывы, якія наш зямляк звязваў са сваёй радзімай – Беларуссю. Па запрашэнні тагачаснага прэзідэнта АН БССР акадэміка К.В.Горава пачаў супрацоўнічаць з беларускімі навукоўцамі, а ў 1940 г. быў абраны правадзейным сябрам АН Беларусі па спецыяльнасці генетыка сельскагаспадарчых раслін.

У цяжкія гады вайны АН БССР працягвала работу ва ўмовах эвакуацыі. У яе навуковых сесіях неаднаразова ўдзельнічаў акадэмік А.Р.Жэбрак – член Прэзідыума беларускай Акадэміі з 1940 г.

У пасляваенны час Антон Раманавіч шмат зрабіў для аднаўлення працы АН БССР у Мінску, дзейнасці тагачаснага Інстытута біялогіі. Пасля адыходу з пасады Прэзідэнта АН БССР К.В.Горава ў 1947 г. кіраўніком беларускай навукі абралі акадэміка А.Р.Жэбрака. Постаць акадэміка А.Р.Жэбрака была адной з самых выдатных у пасляваеннай Беларусі. Не дзіўна, што ён быў сярод "выбраных" падпісантаў Статута ААН у складзе дэлегацыі БССР на Міжнароднай канферэнцыі ў Сан-Францыска. Шматлікія грамадскія ініцыятывы акадэміка і прэзідэнта АН БССР мелі вялікі розгалас у беларускім грамадстве.

На жаль, перыяд навуковай і навукова-кіраўнічай дзейнасці Антона Раманавіча на пасадзе прэзідэнта АН БССР быў вельмі непрацяглым. Агульнавядомае знішчэнне генетыкі як навукі і цкаванне генетыкаў як "замежных агентаў" не абмінула і А.Р.Жэбрака. Пасада прэзідэнта АН БССР была перададзена фізіёлагу М.І.Грашчанкаву.

Пасля пэўнага часу беспрацоўя Антон Раманавіч уладкаваўся на пасаду загадчыка кафедры Маскоўскага фармацэўтычнага інстытута. Толькі пасля смерці Сталіна вучоны прыехаў у родную Беларусь. Больш 12 гадоў працаваў як генетык і селекцыянер у Інстытуце біялогіі і ў новастворанным аддзеле генетыкі і цыталогіі АН Беларусі. Упершыню ў свеце А.Р.Жэбрак атрымаў пладавітыя гібрыды ад скрыжавання аддаленых відаў пшаніцы, спалучыў геномы пшаніцы і жыта, тым самым атрымаў нештучны від – трыцікале. Гэтыя навуковыя дасягненні сталі асновай сучаснай геномнай і хромасомнай інжынерыі.

Практыкам добра вядомы яго доследы па селекцыі пшаніцы (атрыманы поліплоідныя віды) і грэчкі (атрыманы тэтраплоідныя і амфіплоідныя віды), па павышэнні ўстойлівасці пшаніцы да хвароб і шкоднікаў. Навукоўцы ведаюць яго працы "Синтез новых видов пшениц" (1944) і "Полиплоидные виды пшениц" (1957), а студэнты — "Курс ботаники", выдадзены ў 1959 г. Ён з'яўляецца аўтарам звыш 70 навуковых публікацый, многія з якіх, напрыклад, "Новы сорт грэчкі для БССР" (1959 г.) былі прысвечаны агракультуры Беларусі.

У 1944 г. акадэміку А.Р.Жэбраку прысвоілі ганаровае званне Заслужанага дзеяча навукі БССР. Ён быў узнагароджаны трыма ордэнамі, у тым ліку ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, некалькімі медалямі.

Памёр Антон Раманавіч 20 мая 1965 г. у росквіце сваіх творчых сіл. Ён верыў у развіццё генетычных і біялагічных даследаванняў у АН Беларусі. Гэта цяпер увасабляецца ў жыццё прадаўжальнікамі навуковай справы акадэміка, народжанага на Гродзеншчыне.

**Андрэй Майсяёнак,**
**чл.- карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар.**

■ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ КРАЯЗНАЎЦЫ

# УРАЧ І ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ

***Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Мікалая Міхайлавіча Марцінчыка (16.12.1901 – 23.05.1980)***

Ён паходзіць з вёскі Кубельнікі Гродзенскага павета. У 1927 г. закончыў Віленскі універсітэт. Яшчэ ў студэнцкія гады захапіўся грамадска-палітычнай дзейнасцю: супрацоўнічаў з рэдакцыямі беларускіх дэмакратычных газет, быў адным з кіраўнікоў Беларускага студэнцкага саюза, рэдагаваў яго часопіс "Студэнцкая думка". У 1925 г. удзельнічаў ва ўстаноўчай канферэнцыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, быў рэдакцыйным работнікам і выдаўцом яе газет.

Важная роля належала М.М.Марцінчыку ў дзейнасці Таварыства беларускіх школ (з 1925 г. – сакратар; з 1934 г. – намеснік старшыні Галоўнага праўлення). Ён удзельнічаў у з'ездах, стварэнні беларускіх школ, бібліятэк.

З 1927 г. – выкладчык Віленскай беларускай гімназіі і лекар педыятрычнай клінікі Віленскага універсітэта. Двойчы (1927, 1930) арыштоўваўся за палітычную дзейнасць. У 1931 г. быў выселены з Вільні.


М.М.Марцінчык

У 30-я г. у друку КП(б)Б і КПЗБ М.М.Марцінчык неабгрунтавана абвінавачваўся ў супрацоўніцтве з тагачаснымі польскімі ўладамі, спробе звергнуць ТБШ са шляху нацыянальна-вызвольнай барацьбы. Але ён ніколі не здрадзіў беларускай справе, вернасці прыгнечанаму народу.

З 1944 г. Мікалай Міхайлавіч працаваў у Гродне галоўным лекарам інфекцыйнай бальніцы. Па хлуслівяму даносу ў 1948 г. арыштаваны. Як былы "нацыяналіст" 30-х г., прызнаны "ворагам народа" і прыгавораны да 10 гадоў турэмнага зняволення.

Пасля рэабілітацыі ў 1956 г. вярнуўся з Варкуты дадому. Працаваў лекарам у абласной бальніцы.

Памёр у 1980 г. Аўтар неапублікаваных успамінаў.

**Фёдар Ігнатовіч**

# ЦЭНТР НЕ ЗАСТАЕЦЦА БЕЗ НАВЕДВАЛЬНІКАЎ

Усе ўдзельнікі нашага культурна-асветніцкага цэнтра з'яўляюцца сябрамі Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута. Нам аказвае дапамогу Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне "Ратуша". З іх дапамогай двойчы праводзіліся Дзісненскія чытанні, адзначаліся юбілеі Язэпа Драздовіча, праводзіліся цікавыя сустрэчы.

Асноўная задача цэнтра – захаванне спадчыны, культуры, мовы. Таму арганізуем сустрэчы з літаратарамі, гісторыкамі, беларускімі бардамі. Маем сваю газету "Бацькаўшчына", друкуем краязнаўчыя матэрыялы, навіны раёна, змяшчаем творы пачаткоўцаў на літаратурнай старонцы.

Сёлета цэнтр набыў сядзібу знакамітага земляка-садавода Івана Паўлавіча Сікоры, якую прадавалі на дровы. Пабудове больш за сто гадоў. Хочам надаць сядзібе той выгляд, які яна мела ў час жыцця гаспадара. Тады гэта быў прыгожы куточак. Цяпер тут усё ў заняпадзе…

Летам у хаціне зрабілі рамонт. Звярнуліся да пісьменнікаў Беларусі з просьбай аказаць дапамогу ў стварэнні экспазіцыі. Пакуль што адгукнуўся толькі Уладзімір Арлоў: падарыў некалькі сваіх кніг.

Многа робім для захавання памяці пра нашага слыннага земляка – мастака Язэпа Драздовіча. Праведзены чатыры рэспубліканскія пленэры. Па іх выніках праводзіліся выстаўкі ў Мінску, Полацку, Віцебску, Шаркаўшчыне, Браславе, Германавічах, Мёрах, Падсвіллі.

Мы сабралі больш 50 карцін вядомых мастакоў Беларусі, якія прымалі ўдзел у пленэрах, прысвечаных Язэпу Драздовічу і Міхасю Райчонку. Стварылі прыстойную карцінную галерэю. Мясцовая ўлада спачатку выдзеліла нам памяшканне для гэтага. А пасля забрала. Вось такая бяда.

Чакаем ад краязнаўцаў Гродзеншчыны прапаноў аб сумеснай дзейнасці, цікавых экспанатаў і матэрыялаў.

**Ада Райчонак,**
**старшыня культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча.**
в. Германавічы Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобл.

# ГОНАР МУЗЕЯ — ГУРТКОЎЦЫ

Шчыра ўдзячны рэдакцыі за нумары "Краязнаўчай газеты", якія атрымліваем. Заўсёды чытаем з цікавасцю. Размаху краязнаўчага руху на Гродзеншчыне можна толькі па-добраму пазайздросціць і шмат чаму павучыцца.

Шукалі мы матэрыялы пра Барыса Кіта. Пра яго ваш бюлетэнь неаднаразова пісаў. На жаль, знайсці штосьці новае не ўдалося. Ведаем толькі, што шаноўны вучоны ў час вайны быў зняволены фашыстамі ў канцлагеры ў Глыбокім. Вязняў, якія памяталі б тыя падзеі, не знайшлі.

Радуемся кожнаму новаму экспанату, які з'яўляецца ў нашым літаратурна-краязнаўчым музеі СШ №2. Асабліва ўзрадаваліся вершу Міхаіла Святлова пра Глыбокае. Справа




ў тым, што мы доўга шукалі гэты верш, і вось вы, гродзенцы, даслалі яго нам. Гэта каштоўны матэрыял у экспазіцыю.

Дасылаем першы нумар нашага бюлетэня "Сцежкамі Глыбоччыны". Яго робяць актывісты літаратурна-краязнаўчага гуртка "Спадчына", які працуе пры нашым школьным музеі ўжо 11 гадоў. Тут займаецца 15 вучняў старэйшых класаў.

**Тамара Шылёнак, г. Глыбокае, Віцебская вобласць.**



**12 снежня 1586 г. (415 гадоў таму назад) у гродзенскім Старым замку знянацку памёр кароль польскі (1576 – 1586), вялікі князь літоўскі (1579-1586) Стэфан Баторый. Менавіта ў час панавання караля Стэфана Гродна зрабіўся другой сталіцай Рэчы Паспалітай. Улюбёны ў Гродна, Баторый хацеў тут застацца назаўсёды.**

**14 снежня адбылося анатамічнае ўскрыццё яго цела. Афіцыйна ва Усходняй Еўропе гэта адбылося ўпершыню.**

**Гэтай падзеі прысвяціў сваю п'есу-мініяцюру выкладчык гісторыі Луцкаўлянскай СШ Гродзенскага раёна вядомы краязнаўца Уладзімір КОЗЫРАЎ. П'еса двойчы паказвалася на конкурсах "Галасы гісторыі".**

# ГАРОДНЯ, 1586 ГОД, СНЕЖАНЬ ...

**Дзеючыя асобы:**
Вядучы.
Прыдворны.
Прыдворная.
Маршалак дворны.
Доктар Сімані.
Доктар Бучэла.
Цырульнік Зігуліц.

*На авансцэну выходзіць Вядучы:*

Плошча Савецкая раней, калі Гродна належаў даваеннай Польшчы, называлася "пляц Баторага". Тут, у вуглавым доме насупраць Фарнага касцёла, дзе зараз месціцца анатамічны музей медыцынскага універсітэта, у канцы 16-га стагоддзя была рэзідэнцыя Стэфана Баторыя, караля Рэчы Паспалітай і Вялікага князя ВКЛ.

Тут жа адбылося першае ва Усходняй Еўропе анатаміраванне нябожчыка. Ім аказаўся сам кароль. Будынак і сёння называюць Баторыеўкай.

*Вядучы пакідае авансцэну. З двух бакоў да цэнтра авансцэны ідуць, хрысцячыся, Прыдворны і Прыдворная. Яны моляцца, паступова павышаючы голас.*

**Абодва:** О Свента Марыя, Матка Боска, злітуйся над намі! (на трэцім разе – дуэтам, гучна).

**Прыдворная:**
О Божа-Божа! Мы асірацелі. Наш Гаспадар закрыў навекі вочы. А мы, увесь двор, ну так хацелі, каб доўга жыў, хто да жыцця ахвочы.

**Прыдворны:**
Вайну Лівонскую, як быццам леў, прайшоў. І Полацк – у нашым лоне зноў. Нямала выцерпець нябожчыку прыйшлося, у жонкі ўзяць старую давялося.

**Прыдворная (уздыхаючы):**
Дзеля кароны, што згубіў цяпер… Нутро яму які пажадны звер раздзёр у пошуках крывавай ежы?

**Прыдворны:**
З малога пачалося. З Белавежы, дзе, разгарачаны пагоняй за сахатым, схапіў гарачку. Ледзь яго дахаты, закручанага ў скуры, мы прымчалі.

**Прыдворная:**
І вагаліся доўга лёсу шалі… Тры дні назад яго забрала неба.

**Прыдворны:**
У чым прычына? Нам дазнацца трэба!

*(Пакідаюць авансцэну, разыходзячыся ў розныя бакі).*

**Абодва** *(гучна):* Momento mori!

*(Яшчэ два разы – усё цішэй).*

***

*Заслона адкрываецца. Маршалак дворны, доктар Сімані і доктар Бучэла становяцца каля цела нябожчыка.*

**Доктар Сімані:**
Зрабіў Гален калісьці вівісекцыю на кроліках. А зараз мы рэзекцыю на лёгкіх чалавека спрактыкуем. Услед за Везаліем ускрыем чалавека – такога не было ў нас спрадвеку!

**Маршалак дворны:**
Цырульніка Зігуліца – сюды! Даруй нам, Гаспадар, што распілуем.

*(Зігуліц з пілкай і сякерай з'яўляецца, аперыруе гэтымі і іншымі інструментамі).*

**Доктар Бучэла:**
О, як жа ў лёгкіх чорнай шмат вады! І ныркі хворыя... Дык вось яна, прычына ранняй смерці!

**Маршалак дворны:**
Бальзамам цела трэба нам нацерці. І – у падвал халодны! Традыцыі і Богу будзе ўгодна жалобную працэсію пасляць на Вавель. Там – і пахаваць!

*(Заслона закрываецца).*

***

*На авансцэну выходзіць Вядучы:*

Так, сапраўды, і адбылося. Забальзаміраванае цела пастаяла ў падвалах палаца, а потым было дастаўлена ў Кракаў, старую сталіцу Польшчы, дзе, па традыцыі, каранаваліся і знаходзілі вечны спакой польскія каралі. Там, у Вавельскім касцёле, і быў пахаваны Стэфан Баторый.

Пасля гэтага выпадку ўсё часцей сталі анатаміраваць нябожчыкаў. Каталіцкая царква вымушана была адступіць, бо ўскрыцці давалі магчымасць выявіць прычыны хвароб і спосабы лячэння.

У 1986 годзе, з нагоды 400-х угодкаў першага анатаміравання на тэрыторыі СССР, у Гародні адбылася міжрэспубліканская навуковая канферэнцыя.

А ля ўваходу ў паталагаанатамічныя аддзяленні шпіталяў пішуць па латыні чатыры словы: "Тут мёртвыя вучаць жывых".

*Вядучы пакідае авансцэну.*

■ ДА 110-ГОДДЗЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

# ЗОРКА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Багатай спадчыне Максіма Багдановіча прысвечана нямала цікавых кніг, артыкулаў, архіўных знаходак. Гэтыя новыя выданні можна атрымаць у краязнаўчым аддзеле Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Ф.Карскага.**

Манаграфія Міколы Грынчыка "Максім Багдановіч і народная паэзія" (Мн.,1963) вылучыла новы аспект у вывучэнні спадчыны вялікага паэта. Кніга прысвечана пытанням узаемаадносін творчасці М.Багдановіча і беларускага фальклору. Тут шырока асвятляецца творчы шлях таленавітага паэта і яго роля ў барацьбе за перадавыя прынцыпы рэалізму і народнасці ў беларускай літаратуры. Ідэйна-творчыя пошукі Максіма Багдановіча разглядаюцца ў непасрэднай сувязі з характэрнымі з'явамі літаратурна-грамадскага жыцця пачатку XX-га стагоддзя.

Спадчыну Максіма Багдановіча (паэта, перакладчыка, крытыка, публіцыста і гісторыка роднай літаратуры) даследуе Алег Лойка ў манаграфіі "Максім Багдановіч" (Мн., 1966). Аўтар імкнецца паказаць, што за чалавек быў Максім Багдановіч – класік беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры, паэт-дэмакрат, натхнёны творца цудоўных вершаў і глыбокіх артыкулаў, якія ён нам пакінуў, хоць і пражыў толькі 25 гадоў.

Зборнік успамінаў "Шлях паэта" (Мн., 1975) складальніка Н.Б.Ватацы ўключае ўспаміны сучаснікаў М.Багдановіча: яго бацькі, стрыечнай сястры Г.Валасовіч-Гразновай, сяброў па гімназіі – Ц.Годнева, Д.Дзябольскага, тых, хто яго ведаў па літаратурнай і грамадскай працы –Змітрака Бядулі, грамадскага дзеяча Зоські Верас, малавядомага пісьменніка Л.Зайца і інш. Тут жа змешчаны пісьмы самога М.Багдановіча, перапіска бацькі аб творчай спадчыне Максіма, лісты яго брата Паўла Адамавіча, у якіх ёсць звесткі пра Максіма.

У манаграфіі Алы Кабаковіч "Паэзія Максіма Багдановіча" (дыялектыка рацыянальнага і эмацыянальнага) (Мн., 1978) раскрываюцца найбольш асноўныя рысы эвалюцыі беларускай паэзіі ў цэлым на адным з самых складаных і цікавых этапаў яе развіцця. Асаблівае месца займае даследаванне тых элементаў паэтыкі М.Багдановіча, якія традыцыйна ўвайшлі ў практыку сучаснай беларускай паэзіі.

Другое дапоўненае выданне кнігі Алеся Бачылы "Дарогамі Максіма Багдановіча" (Мн, 1983) знаёміць чытача з цікавымі матэрыяламі і дакументамі, якія дапамагаюць лепш уявіць характар М.Багдановіча, яго рознабаковыя інтарэсы, грамадскую дзейнасць, сямейныя ўзаемаадносіны, жыццёвае асяроддзе.

У кнігу вядомага бібліёграфа Беларусі Ніны Ватацы "Шляхі" (Мн., 1986) увайшлі матэрыялы, якія расказваюць пра жыццёвую творчую спадчыну класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча.

Кніга Рыгора Бярозкіна "Чалавек напрадвесні: Аповяд пра Максіма Багдановіча" (Мн., 1986) – нарыс пра складаны і нялёгкі лёс паэта. Аўтар паведамляе пра творчы шлях пісьменніка, прасочвае вытокі яго творчасці, спыняецца на духоўнай эвалюцыі самабытнага таленту, раскрывае сутнасць яго наватарскіх пошукаў у паэтычным майстэрстве.

Жыццёваму і творчаму шляху паэта прысвечана кніга Леаніда Зубарава "Максім Багдановіч" (Мн., 1989). У ёй выкарыстоўваюцца вядомыя, а таксама недрукаваныя архіўныя дакументы, якія аднаўляюць старонкі жыцця Багдановічаў, іх сваяцкія адносіны з Пешкавымі.



Літаратурна-мастацкае выданне Генадзя Каханоўскага "А сэрца ўсё імкне да бацькоўскага краю…З біяграфіі М.Багдановіча" (Мн., 1991) прысвечана важнай падзеі ў жыцці паэта – паездцы на Беларусь летам 1911 г. Аўтар на аснове архіўных знаходак, а гэта ўспаміны сучаснікаў, лісты нашаніўцаў і бацькі паэта да знаёмых Максіма, узнаўляе, бадай, самы плённы, так званы ракуцёўшчынскі перыяд у творчасці паэта.

У кнізе доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана "Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка Максіма Багдановіча" (Мн., 1991) на аснове цэласнага даследавання жыццёвага лёсу, творчасці і светапогляду М.Багдановіча ўзнаўляецца непаўторны воблік паэта, вызначаецца месца яго літаратурнай спадчыны ў духоўнай культуры народа.

Трэцяе выданне кнігі Марыі Барсток "Максім Багдановіч у школе" (Мн., 1991) змяшчае глыбокі аналіз творчасці таленавітага беларускага паэта. Галоўная ўвага ўдзяляецца творам, вывучэнне якіх прадугледжваецца школьнай праграмай.

"Архіўныя матэрыялы: Да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Сшытак 1" (Мн., 1996) падрыхтаваў Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Сюды ўвайшлі перапіска бацькоў паэта, лісты старшага брата Вадзіма і іншыя дакументы, якія тычаць сям`і Багдановічаў.

Літаратурна-крытычны артыкул "Яна дала Беларусі паэта" Алы Петрушкевіч, які змешчаны ў кнізе "Іду па слядах" (Гродна, 1997), прысвечаны маці паэта Марыі Апанасаўне Багдановіч.

Цікавыя крытычныя артыкулы Ніла Гілевіча "Страцім-лебедзь беларускай паэзіі" і Алеся Бяляцкага "Жыццёвая сцяжына паэта", змешчаны ў аднатомніку М.Багдановіча "Выбраныя творы" (Мн., 1996).

**Станіслаў Міхальчык,**
**супрацоўнік абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Карскага.**

■ НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

# ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ

***26-га кастрычніка ў Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі "Зямля і людзі" адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі "Мастацкі свет Валянціна Рамановіча", прымеркаваны да 90-годдзя з дня нараджэння мастака.***

Прысутнічалі яго сваякі з Вільні, а таксама госці з Мінска – старшыня Саюза мастакоў Беларусі Уладзімір Басалыга, мастакі Кастусь Качан і Рыгор Сітніца, пісьменнік Яўген Лецка. Быў адзначаны высокі мастацкі ўзровень карцін Валянціна Рамановіча. Падкрэслена, што вяртанне на радзіму імя мастака – важная падзея ў жыцці беларускага мастацтва. Гаварылася пра тое, каб наладзіць выстаўку мастака ў сталіцы.

Валянцін Рамановіч нарадзіўся 20 кастрычніка 1911 г. у сям'і настаўнікаў у мястэчку Карэлічы. Яго бацька Сцяпан Канстанцінавіч быў выкладоўцам матэматыкі ў Барыса Кіта – цяпер сусветна вядомага вучонага ў галіне астранаўтыкі.

У 20-я г. Валянцін вучыўся ў польскай сямігодцы, затым у гімназіі імя А.Міцкевіча ў Навагрудку. Там упершыню на выстаўцы з'явіліся яго малюнкі. Гэта вызначыла далейшы шлях будучага мастака. Ён паступіў вучыцца на мастацкі факультэт Віленскага універсітэта. У 1934 г. здаў экзамен, які даваў яму права быць выкладчыкам малявання ў школах і настаўніцкіх семінарыях. У гэтым жа годзе Валянцін быў залічаны на медыцынскі факультэт тае ж вучэльні.

У другой палове 30-х гадоў работы Валянціна Рамановіча пачалі з'яўляцца на выстаўках у Вільні і Варшаве. Ён пісаў пейзажы алейнымі фарбамі. Аднак больш яго цікавіла графіка. Сярод твораў мастака ёсць жывапісныя палотны – "Сярэбраная рака", "Жоўтая рака", "Сосны", "Зіма" і інш. Цікавасць выклікаюць графічныя работы – "Над Свіцяззю", "Руіны замка ў Троках", "Вежа Ковенскага замка", "Стэфан Баторый", а таксама экслібрысы, выкананыя ў рознай тэхніцы.

У 30-я – 40-я г. В.Рамановіч шмат месяцаў правёў каля сцен Тракайскага замка, дзе вяліся работы па вывучэнні і кансервацыі гэтага гістарычнага помніка. Улюбёны ў муры старажытнага замка, уражаны прыгажосцю навакольнай прыроды, мастак працаваў натхнёна і апантана. У выніку стварыў цыкл гравюр па медзі пад назваю "Трокі". Тут 32 медзярыты. Тэхніку Валянціна Рамановіча ў гэтым відзе мастацтва спецыялісты назвалі віртуознай. Цыкл "Трокі" адлюстроўвае паэтычную і рамантычную натуру мастака. У той жа час усе дэталі замка, якія мы бачым на гравюрах, маюць дакументальную дакладнасць.

Работы В.Рамановіча адразу знайшлі прызнанне прафесіяналаў. На яго глядзелі, як на графіка з вялікімі магчымасцямі. На жаль, жыццё мастака трагічна абарвалася ў 34-гадовым узросце.

Сёння творы Валянціна Рамановіча захоўваюцца ў мастацкім музеі ў Вільні, у музеях Варшавы і Торуня. Пасля смерці Валянціна яго творы экспанаваліся на выстаўках толькі ў Торуні ў 1945, 1946, 1958, 1987 г.

І вось упершыню работы мастака выстаўлены ў Беларусі. У Карэліцкі краязнаўчы музей копіі карцін перадалі сваякі мастака. Тут графічны цыкл "Трокі", экслібрысы, сямейныя фотаздымкі, каталогі выставак і іншыя матэрыялы.

Выстаўка "Мастацкі свет Валянціна Рамановіча" – толькі першы крок на шляху вяртання імя і творчай спадчыны мастака на радзіму. Бібліяграфічныя звесткі пра яго ёсць у даведніку літаратуразнаўцы Аляксея Пяткевіча "Людзі культуры з Гродзеншчыны". Гэтыя дадзеныя падштурхнулі мяне да далейшых пошукаў і стварэння выстаўкі ў музеі.

**Святлана Кошур,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Карэліцкага краязнаўчага музея**
**"Зямля і людзі".**

# НАМ ТАКСАМА ЁСЦЬ ПРА ШТО РАСПАВЕСЦІ

**Уладзімір Содаль — глыбокі знаўца беларускага літаратурнага працэсу. Ён збіральнік фальклору, ніколі не пакідае запісную кніжку. Пісьменнік у свой час вёў тэлеперадачу "Роднае слова". Зараз выйшла з друку чарговая брашура літаратара – краязнаўчы нарыс "Карпілаўка".**

Гэтая вёска знаходзіцца на Лагойшчыне. У свой час тут жыў беларускі пісьменнік Антон Лявіцкі (псеўданім Ядвігін Ш.). Уладзімір Содаль хораша распавядае пра гэтыя мясціны. Прыгадвае дзесяткі цікавых фактаў з жыцця тутэйшых гаспадароў, у прыватнасці, іх суседзяў з фальварку Акопы – Луцэвічаў. Янка Купала (Луцэвіч) і Антон Лявіцкі пазнаёміліся ў 1904 г. у Радашковічах на кірмашы. У Карпілаўцы Купала ўпершыню прачытаў летам 1912 г. сваю п'есу "Паўлінка"…

У Карпілаўцы два дні ў 1916 г. гасцяваў Максім Багдановіч. Пра гэта ўспамінала Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая). Максім завочна быў знаёмы з дачкой Ядвігіна Ш. – Вандай, праслаў ёй карэктуры артыкула "Белорусское возрождение". Сядзібу наведвалі таксама Язэп Лёсік і Палута Бадунова.

Нарыс Уладзіміра Содаля адпавядае свайму вызначэнню. Выдатнае валоданне словам, умелае выкарыстанне краязнаўчых дадзеных, раскаванасць апавядальніка – усё гэта робяць брашуру цікавай і змястоўнай. Такія выданні надзвычай карысныя.

Краязнаўцы Гродзеншчыны таксама могуць займець уласныя выданні такога кшталту. Брашура Уладзіміра Содаля сёмая па ліку з серыі "Ведаць свой край Беларусь". Выданнем займаецца мінскае выдавецтва "Пейто".




Дык хто прапануе да друку чарговыя па ліку нарысы?

**Сцяпан Ярашчук**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»
Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.
Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.
Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кірмоцкі
Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"